ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.16 (3136) ● ● ЧАЦВЕР, 7 мая, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Нашчадкі будуць удзячныя**

Падчас акцыі "Тыдзень лесу-2009" высаджана больш за дваццаць мільёнаў дрэў Стар. 2



**БЭЗ расцвітае ў цеплыні...**

Жыццё грамадскай арганізацыі "Беларуска-эстонскае згуртаванне" вылучаецца актыўнай паўсядзённасцю Стар. 2



**Новае аблічча старога храма**

Царкву XVII стагоддзя адновяць на плошчы Свабоды ў Мінску Стар. 3

# У карагодзе сяброўства

## Міжнародны фестываль "Зямля пад белымі крыламі" сабраў у Мазыры дзяцей з адзінаццаці краін свету

**Алена Сафронава**

Упершыню гэты дзіцячы творчы форум быў праведзены ў 1998 годзе. Менавіта такія артысты, як аказалася, найбольш ярка сімвалізуюць ідэю адраджэння зямель, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. За гады правядзення фестываль адкрыў нямала новых імён юных выканаўцаў, якія потым заваёўвалі перамогі на прэстыжных міжнародных конкурсах.

Сёлета ў гала-канцэрце з нагоды ўрачыстага адкрыцця фестывалю ўдзельнічалі госці, лаўрэаты і дыпламанты папярэдніх фестываляў "Зямля пад белымі крыламі", уладальнікі гран-пры міжнародных дзіцячых конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Потым Мазыр яшчэ два дні жыў святам: ішоў конкурсны творчы марафон па вакалу і харэаграфіі. Юныя выканаўцы прадэманстравалі сваё майстэрства ў розных напрамках вакалу і харэаграфічнага мастацтва.




На фестывалі ў Мазыры было светла і радасна ад дзіцячых усмешак

Заключны дзень фестывалю, 26 красавіка, прайшоў пад знакам памяці аб чарнобыльскай катастрофе. Дзеці ўдзельнічалі ў мітынгу-рэквіеме, прысвечаным чарговай гадавіне Чарнобыля. Падчас акцыі "Фестываль спяшаецца ў ваш дом" юныя артысты выступілі ў аграгарадках Мазырскага раёна, прайшлі майстар-класы членаў міжнароднага журы.

Завяршыўся VI Міжнародны фестываль маладых талентаў "Зямля пад белымі крыламі" гала-канцэртам "У карагодзе сяброўства".

**ВЕСТКІ**

## Эканоміка экалогіі

**У Беларусі будзе рэалізавана папулярная ў Еўропе канцэпцыя "Зялёных маршрутаў" — турысцкіх шляхоў прыроднай і культурнай спадчыны**

Канцэпцыя "Зялёных маршрутаў" з'яўляецца адным са складнікаў новага сумеснага праекта Еўрапейскай камісіі і Праграмы развіцця ААН "Устойліваеразвіццё на мясцовым узроўні". Плануецца таксама актывізаваць укараненне ў беларускіх рэгіёнах "Мясцовых павестак-21" — стратэгій па павышэнні якасці і ўзроўню жыцця. Пры падрыхтоўцы такіх праектаў будзе ўлічвацца абвешчаны ААН прынцып эфектыўнага кіравання, які задавальняе ўласныя патрэбы без шкоды для экалогіі і інтарэсаў будучых пакаленняў.

Практычным аспектам рэалізацыі гэтых праектаў у Мінскай вобласці і Мінску быў прысвечаны семінар "Перспектывы ўстойлівага развіцця і экалагічныя турыстычныя маршруты ў беларускіх рэгіёнах". Эксперты расказалі пра гісторыю і практыку ўжывання "Мясцовых павестак-21" і "Зялёных маршрутаў" у Еўропе.

Варта спадзявацца, што паспяховае ўвасабленне еўрапейскага вопыту будзе спрыяць больш поўнаму выкарыстанню патэнцыялу беларускіх рэгіёнаў, паможа ім у прыцягненні турыстаў.

**ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ**

# Маладзечанскія далягляды

## У культурную палітру краіны гэты горад прыўносіць свае адметныя фарбы

**Іван Ждановіч**

"Маладзечна будзе вечна!" — словы з песні. Маладзечанцы пачулі яе і палюбілі яшчэ на пачатку 90-х. Тады ў горадзе толькі набіраў сілу Фестываль беларускай песні і паэзіі. Між іншым, цяпер поўным ходам ідзе падрыхтоўка да дзесятага, юбілейнага ўжо Нацыянальнага фэста, які патрапіў у лік пяці буйнейшых беларускіх фестываляў. Арганізатары не памыліліся: тут, у Маладзечна, сапраўды багатае на культурна актыўную публіку месца. Музыкай і спевамі ўпрыгожвае горад, скажам, Маладзечанскае музвучылішча імя М.-К.Агінскага. Дарэчы, вядомы на прасторах былога Саюза кампазітар і спявак Юрый Антонаў — таксама яго выхаванец. Памятаю, і сам я паспытаў "імгненне славы" на стадыёне ў Маладзечне: на адным з гала-канцэртаў галасісты хлопчык Ягорка Чуб, лаўрэат фестывалю, выканаў з аркестрам маэстра Міхаіла Фінберга песню "Белы конь" на мае словы…

А гэтай вясною горад прымаў 13-ю цырымонію ўзнагароджання лепшых беларускіх музыкантаў "Рок-каранацыя". Свята, якое раней заўсёды праводзілася ў сталіцы, тут прайшло на "ўра", з аншлагам у мясцовым Палацы культуры.

Культурнай з'явай для жыхароў райцэнтра заўсёды становяцца і прэм'еры прыпісанага ў



Помнік М. Агінскаму ў Маладзечне

Маладзечне Мінскага абласнога драматычнага тэатра. "Тут вельмі шчыльная культурная атмасфера: 13 школ, ёсць гімназія, мастацкая школа, гімназія-каледж мастацтваў, шэсць вучылішчаў, у тым ліку медыцынскае і музычнае, чатыры бібліятэкі, музеі, лялечны тэатр… — мастацкі кіраўнік тэатра Юрый Вута гатовы прадаўжаць пералік устаноў, звязаных з адукацыяй і культурай. — Між іншым, у XVIII стагоддзі Маладзечна стала ўласнасцю князёў Агінскіх, тут неаднаразова гасцяваў у дзядзькі аўтар знакамітага паланэза "Развітанне з Радзімай", ці "Паланэза Агінскага" — Міхал Клеафас Агінскі. Таму і мясцовае музвучылішча носіць яго імя, і помнік яму пастаўлены — тут, як кажуць, усё пранізана музыкай. Працуючы ў Маладзечне, я не раз пераконваўся: гараджане з вялікай павагай ставяцца і да нашага мастацтва. Правялі апытанне: 27 працэнтаў жыхароў ходзяць у тэатр. Досыць культурны паказчык…"

Знаўцы гісторыі сцвярджаюць, што менавіта ў блізкіх да Маладзечна Радашковічах у 1913 годзе свой першы спектакль па п'есе Янкі Купалы "Паўлінка" ў прысутнасці аўтара дала трупа Фларыяна Ждановіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага прафесійнага тэатра. А Мінскі абласны драматычны тэатр створаны ў 1991 годзе на базе моцнага народнага калектыва. ➔ Стар. 4

# Нашчадкі будуць удзячныя

## Падчас акцыі "Тыдзень лесу-2009" высаджана больш за дваццаць мільёнаў дрэў

**Вольга Бляўская**

У Тыдні лесу па ўсёй краіне прынялі ўдзел трыццаць пяць тысяч чалавек. Яны не толькі садзілі дрэвы, але пабудавалі і парамантавалі месцы адпачынку, прывялі ў парадак прыдарожныя зоны. Галоўная мэта акцыі — прыцягнуць увагу грамадства да праблем лясной гаспадаркі, да значнасці прыродных рэсурсаў. Прайшло экалагічнае мерапрыемства пад дэвізам "Новыя лясы — нашчадкам у спадчыну".

Дарэчы, Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі ўжо заявіла, што калі ўзнікне неабходнасць, яно гатова асвоіць усе нявыкарыстаныя ў сельскай гаспадарцы тэрыторыі і ператварыць іх у лясныя масівы.



БЕЛТА

У закладцы новага парку з хваёвых дрэваў у Гомелі самы актыўны ўдзел прымалі ветэраны

ЯК СПРАВЫ, ДЫЯСПАРА?

# БЭЗ расцвітае ў цеплыні…

## Жыццё грамадскай арганізацыі "Беларуска-эстонскае згуртаванне" вылучаецца актыўнай паўсядзённасцю і здабыткамі, якія вартыя плёну

**Янка Яцкавец**

Атмасфера, танальнасць, адчуванне… Гэтымі словамі звычайна мы спрабуем перадаць самыя тонкія нюансы ўражанняў, якія застаюцца пасля падзеі. Сёлета жыццё грамадскай арганізацыі "Беларуска-Эстонскае згуртаванне" праходзіць пад знакам 20-гадовага юбілею. Мы ўжо расказвалі, як урачыста прайшло мерапрымства з гэтай нагоды ў валасным горадзе Йыхві. Начальнік аддзела апарата Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандр Сасновіч быў госцем на святе, зрабіў там фотаздымкі і прынёс іх у рэдакцыю. Калі мы папрасілі яго падзяліцца асабістымі ўражаннямі пра паездку, вочы Аляксандра Львовіча пацяплелі, і стала зразумелым: беларускую дэлегацыю ў Эстоніі прымалі вельмі сардэчна.

У прыватнасці, уразіла яго сама канцэртная зала на 1000 месцаў, дзе ўшаноўвалі прадстаўнікоў беларускай дыяспары. "Для гарадка Йыхві, памерам з нашы Радашковічы, гэта шыкоўнае збудаванне, — гаворыць А.Сасновіч. — Прыемна, што з бюджэта воласці былі выдзелены неабходныя сродкі для правядзення ўрачыстасці БЭЗа, у тым ліку і на арэнду такой залы. На мой погляд, гэта і сведчанне вялікай павагі, якую праяўляюць да беларусаў у Эстоніі".

Варта нагадаць, што цяпер у склад суполкі БЭЗ уваходзіць 70 чалавек, усяго ж у рэгіёне пражывае каля шасці тысяч нашых суайчыннікаў. "З мінулага года БЭЗ узначальвае Сцяпан Разанка, а раней на працягу пятнаццаці гадоў справы вяла цяперашні ганаровы старшыня таварыства Маргарыта Астраумава, — удакладняе А.Сасновіч. — Дарэчы, Маргарыта Іванаўна, як я пераканаўся, карыстаецца вялікім аўтарытэтам і ў прадстаўнікоў дыяспары, і ў эстонскіх уладаў. У Эстоніі яна з 1962 года, ганаровы грамадзянін Йыхві, уваходзіла ў склад грамадскага савета па справах нацыянальных меншасцяў пры Прэзідэнце Эстонскай Рэспублікі. І ўвогуле гэтая мастачка з беларускімі каранямі, якая вучылася ў Віцебску, доўгі час была дырэктарам Йыхвінскай мастацкай школы і, дарэчы, цяпер у ёй выкладае, вельмі цікавы чалавек. З вялікім поспехам на святе прайшла выстава яе карцін. Прыемна, калі такія адметныя асобы прэзентуюць нашу краіну за мяжой."



На святе падчас юбілею БЭЗ віншавалі госці з Беларусі

Цяпер БЭЗ актыўна супрацоўнічае з Генеральным консульствам Беларусі ў Эстоніі, а таксама з уладамі і арганізацыямі Пастаўскага раёна Віцебшчыны. Прычым менавіта падчас урачыстасцяў з нагоды 20-годдзя БЭЗа — і ў вялікай ступені дзякуючы гэтай суполцы — было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Йыхвінскай воласцю і Пастаўскім раёнам. Гэтую падзею шырока асвятлялі сродкі масавай інфармацыі Эстоніі. Пад час падпісання пагаднення мэр Йыхві высока ацаніў работу беларускай дыяспары ў рэгіёне і адзначыў, што вельмі канструктыўна складваецца супрацоўніцтва БЭЗа з уладамі павета і воласці. Да слова, летась падобнае пагадненне падпісалі беларускі горад Салігорск і эстонскі Кохтла-Ярве.

Выступаючы на ўрачыстасці, Аляксандр Сасновіч ад імя Упаўнаважанага вітаў суайчыннікаў, выказаў словы ўдзячнасці ў адрас эстонскіх уладаў за актыўную падтрымку дзейнасці беларускай дыяспары. Актывісты БЭЗа атрымалі Ганаровыя граматы Упаўнаважанага. Галоўным жа падарункам-сюрпрызам ад беларускага боку як для артыстаў фальклорнага калектыва БЭЗа, так і для шматлікіх гледачоў сталі беларускія нацыянальныя касцюмы. Яны былі спецыяльна пашыты да свята і падораны артыстам, якія і прадэманстравалі сцэны падарункі з Радзімы ва ўсёй красе. Па словах А. Сасновіча, такі прыгожы жэст Айчыны быў належна ацэнены як самімі беларусамі Эстоніі, так і прадстаўнікамі эстонскіх улад.

Музыкай, песнямі Радзімы на ўрачыстасці парадавалі гледачоў артысты пастаўскага ансамбля "Паазер'е" і калектыва "Натхненне", у якім іграюць выкладчыкі з Салігорскай дзіцячай музычнай школы. Цалкам запоўненая зала не шкадавала для беларускіх артыстаў апладысментаў. Падрыхтавала свой падарунак для гасцей з Беларусі, а ў дэлегацыі было больш за дваццаць чалавек, і Генконсульства: ім арганізавалі экскурсію па Таліне.

"Тут да месца будуць словы: сяброўства, павага, цеплыня… — спрабуе пераказаць свае эстонскія ўражанні Аляксандр Сасновіч. — На мой погляд, дзейнасць БЭЗа — яскравы прыклад таго, што ў краінах замежжа беларусаў паважаюць найперш за таленты і працавітасць. Калі ёсць у суполак цікавыя ідэі, канкрэтныя грамадска карысныя справы, то цікава жыць усім, хто ў іх уваходзіць, цёпла і тым, хто з такімі людзьмі сябруе. Таму праз апарат Упаўнаважанага з рэспубліканскага бюджэта і выдзяляюцца значныя сродкі для супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой. У прыватнасці, летась і на пачатку гэтага года мы набылі і перадалі суполкам дзяржаўную сімволіку Беларусі, аргтэхніку, тэлевізары, музычныя інструменты і, як у Эстонію, нацыянальныя касцюмы для дзіцячых і дарослых творчых калектываў. Дапамагаем суполкам і інфармацыйна".

# З Оршы — у Парыж

**Андрэй Качаткоў**

**Дзіцячы хор Cantare з Оршы выступіць на міжнародным фестывалі ва Францыі**

На прэстыжным музычным форуме, які пройдзе ў чэрвені бягучага года ў сталіцы Францыі, маладыя музыканты з Оршы выступяць упершыню. Фармат фестывалю прадугледжвае правядзенне беларускага дня, падчас якога для прэзентацыі нацыянальнай культуры дзіцячаму хору дадуць тры канцэртныя пляцоўкі. Cantare павязе ў Францыю праграму, якая складаецца з беларускіх народных песень, твораў сучасных аўтараў, а таксама класічнай музыкі.

У актыве аршанскіх выканаўцаў ужо ёсць прызавыя месцы, заваяваныя на міжнародных фестывалях у Польшчы, Маскве і Мінску. Выступленне на парыжскай сцэне стане сур'ёзнай творчай праверкай для калектыву, але, як упэўнены яго ўдзельнікі, яны здолеюць годна прадэманстраваць прыгажосць і разнастайнасць беларускай песні.

# Рарытэты для краязнаўцаў

**Сяргей Кулягін**

**Краязнаўчы фонд Магілёўскай абласной бібліятэкі папоўніўся электроннымі копіямі рэдкіх выданняў XIX — пачатку XX стагоддзя**

Спачатку супрацоўнікі бібліятэкі вызначылі месцазнаходжанне рарытэтных кніг. Затым спецыялісты Нацыянальнай акадэміі навук скапіравалі для чытачоў краязнаўчыя дакументы са свайго фонду. Сярод рарытэтаў такія выданні, як "Аляксандраўскае рэальнае вучылішча ў горадзе Магілёве на Дняпры" (1902), "Багаяўленскі брацкі манастыр у Магілёве" (1899), "Справаздача аб дзейнасці Магілёўскай губернскай земскай бальніцы за 1914 год" і іншыя.



У бліжэйшы час у магілёўскую бібліятэку будуць перададзены яшчэ больш за дваццаць электронных копій рэдкіх кніг. Гэта вельмі значныя матэрыялы для гісторыкаў-даследчыкаў, краязнаўцаў, папаўнення гісторыка-дакументальнай спадчыны Магілёўскага краю.

Усе копіі захоўваюцца ў бібліятэцы на электронных носьбітах, і кожны жадаючы можа азнаёміцца з імі, скапіраваць асобныя фрагменты.

# Новае аблічча старога храма

## Царкву XVII стагоддзя адновяць на плошчы Свабоды ў Мінску


ГЕОРГІЙ ШАБЛЮК

Якраз на гэтым месце будзе ўзведзена Царква Святога Духа



Так царква выглядала на пачатку XIX стагоддзя

**Віктар Корбут**

Рэстаўратары абяцаюць, што асноўныя работы па ўзвядзенні храма закончацца ў 2010 годзе да Дня горада, які сталіца адзначае на пачатку верасня. Гэта сапраўды кароткі тэрмін, калі ўлічыць, што вяртання ў Верхні горад аднаго з помнікаў архітэктуры, які вызначаў аблічча гэтай часткі Мінска, многія чакалі яшчэ з канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя.

Царква Святога Духа была пабудавана ў 1636 годзе як галоўны грэка-каталіцкі храм тагачаснага Менска. Пасля далучэння Беларусі да Расіі культавы цэнтр пераасвяцілі ў Свята-Петра-Паўлаўскі кафедральны сабор. Тут з пачатку XVII да 30-х гадоў XX стагоддзя захоўвалася галоўная беларуская святыня — абраз Маці Божай Мінскай, які сёння знаходзіцца па суседстве — у Свята-Духавым кафедральным саборы.

Царква Святога Духа, якую нельга блытаць з сучасным аднайменным саборам, лічылася найпрыгажэйшай у горадзе. Яе вылучаў пышны фасад у стылі барока — нібы іканастас: размаляваны фрэскамі, прарэзаны нішамі, з якіх пазіралі на прахожых святыя, увасобленыя ў скульптурах. Каб уявіць, як выглядаў мінскі шэдэўр, згадайце віленскі касцёл Святога Яна пры універсітэце — іх сілуэты былі падобныя.

На малюнках 1800 і 1843 года, якія знайшліся ў архівах, бачна, што вонкавае аблічча храма з пачатку XVII стагоддзя засталося нязменным. Але пасля сабор перабудавалі у псеўдарускім стылі — гэта адбылося двойчы, у сярэдзіне і канцы XIX стагоддзя. Замест барочнага шчыта фасад аздобіла высокая вежа, увянчаная дэкаратыўнай цыбулінай з крыжам.

А роўна праз тры стагоддзі пасля з'яўлення царквы на галоўнай плошчы старога Мінска, у 1936 годзе, храм узарвалі.

І вось цяпер прадпрыемства "Мінская спадчына" адказвае за рэстаўрацыю гістарычнага цэнтра сталіцы, пачало работы па аднаўленні царквы. Яна атрымае першапачатковыя рысы, зафіксаваныя ў вывях, зробленых на пачатку XIX стагоддзя.

Ідэя аднавіць царкву-красуню ўзнікла яшчэ ў 80-х гадах мінулага стагоддзя. Тады вядомы архітэктар Сяргей Багласаў распрацаваў праект рэстаўрацыі, за ажыццяўленне якога ўзяліся, аднак, толькі цяпер. Чаму?

— Гэта выклікана фінансавымі прычынамі. Але цяпер, нават нягледзячы на крызіс, мы ўжо маем магчымасць узяцца за аднаўленне апошняга знакавага аб'екта ў Верхнім горадзе, — гаворыць Павел Шыкунец, дырэктар "Мінскай спадчыны". — У зямлі залягаюць падмуркі царквы XVII стагоддзя. Над старажытным фундаментам узвядзём платформу, на якой, уласна кажучы, і будзе адбудоўвацца царква. А пад платформай застануцца рэшткі першапачатковага храма, якія змогуць пабачыць турысты — або звонку будынка, або спусціўшыся ў сутарэнне. Узвядзенне платформы над старымі падмуркамі дазволіць засцерагчы новы будынак ад "землятрусу", бо ў гэтым месцы праходзіць лінія метрапалітэна.

Нішы фасада "новай" царквы зноў аздобяць арнаментам, а стральчатыя вокны ўпрыгожаць вітражамі. Адбудуюць і галерэю, што калісьці злучала храм з манастыром базыльянак, дзе сёння размешчана дзіцячая музычная школа №10. У царкве ж размесціцца канцэртная зала дзіцячай філармоніі на 250 месцаў. Па словах Паўла Шыкунца, усе работы цалкам маюць быць скончаны праз 19 месяцаў. Пасля таго, як паўстане сам будынак храма, працягнецца ўпрыгажэнне яго фасадаў і інтэр'ера.

# Вясельныя цырымоніі ў Палацы Бутрымовіча

**Вольга Кабяк**

**Помнік архітэктуры XVIII стагоддзя адкрыты пасля рэстаўрацыі ў Пінску**

У свайго роду іерархіі беларускіх гарадоў Пінск займае другое месца — пасля Гродна — па колькасці помнікаў архітэктуры, якія захаваліся. Пры гэтым рэзідэнцыі, у якой жыў адзін з граданачальнікаў Матэвуш Бутрымовіч, аддадзена ў спісе аб'ектаў архітэктурнай спадчыны адно з цэнтральных месцаў. З палацам цесна звязаны лёс горада і людзей, якія адыгралі прыкметную ролю ў яго гісторыі.


БЕЛТА

На фоне Палаца

Палац Бутрымовіча — першая ў горадзе мураваная пабудова грамадзянскага прызначэння. Камень у яго аснаванне заклаў апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. У сярэдзіне XIX стагоддзя адзін час тут жыў мастак і кампазітар Напалеон Орда. Напярэдадні Першай сусветнай вайны будынак належаў каталіцкай царкве і выкарыстоўваўся як рэзідэнцыя епіскапа. Пасля вызвалення Пінска ад нямецка-фашысцкіх войскаў у ліпені 1944 года ў палацы размясцілася друкарня. Затым на доўгія гады будынак стаў гарадскім Домам піянераў, а ў пачатку 1990-х практычна застаўся без гаспадароў і знаходзіўся ў запусценні.

Рэстаўрацыя Палаца Бутрымовіча пачалася некалькі гадоў назад з капітальнага рамонту даху. Быў адноўлены фасад будынка, выканана ўнутранае аздабленне двух яго паверхаў, падведзены інжынерныя сеткі. Прыгожы будынак і ў нашы дні захаваў статус дзеючага палаца — цяпер гэта Палац шлюбаў. Ужо ў дзень яго адкрыцця пасля рэстаўрацыі тут прайшлі першыя вясельныя цырымоніі.

# Напамін з сярэднявечча

## Гісторыкі прыступілі да раскопак Мінскага замчышча — старажытнага замкавага комплексу ў цэнтры сталіцы

**Вольга Бяляўская**

Замкавы комплекс з XI і па XVI стагоддзі быў адміністрацыйным, эканамічным і культурным цэнтрам горада. З XVII стагоддзя замак пачаў паступова прыходзіць да заняпаду і да XX стагоддзя ад яго засталіся толькі земляныя валы. Даследаванні разлічаны на некалькі гадоў і прадугледжваюць не толькі археалагічныя пошукі, але і праверку вынікаў раскопак, якія праводзіліся раней.

Сёлета работы будуць праводзіцца на беразе ракі Свіслач. Асноўная задача гісторыкаў заключаецца ў тым, каб ацаніць стан уязной драўлянай брамы старажытнага замка, якая ў сярэдневякоўі была ключавым месцам абароны горада. Іншым аб'ектам даследавання Мінскага замчышча стануць рэшткі старажытнага храма XII стагоддзя.

Дарэчы, пасля таго, як раскопкі скончацца, на іх месцы плануецца стварыць Нацыянальны гісторыка-археалагічны цэнтр, частка залаў якога будзе размешчана пад зямлёй.



На макеце — брама старажытнага замка

# Адчуванне духоўнасці

**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры праходзіць выстава сучасных іканапісных школ Беларусі і Польшчы**

Экспазіцыя арганізавана сумесна з Польскім інстытутам у Мінску і міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Таварыства падтрымкі хрысціянскай культуры".

На выставе прадстаўлена больш за 30 ікон, створаных Сяргеем Каркатадзе з Брэста, Сяргеем Бышнёвым з Віцебска, матухнай Вольгай Дарашэвіч, Вольгай Чарняк, Паўлам Жаравым, Аляксандрам і Міхаілам Зубовічамі з Мінска, майстрамі з іканапіснай майстэрні мінскага Свята-Елісавецінскага манастыра, жонкай пасла Сербіі ў Беларусі Верай Джукіч і дырэктарам іканаграфічнай майстэрні з Бельска-Падляскага (Польшча) протаіерэем Леанідам Тафілюком. Дэманструюцца таксама пісанкі і ікона XVIII стагоддзя "Хрышчэнне" з фондаў музея.

Адкрываючы экспазіцыю, яе куратар, кандыдат мастацтвазнаўства Ларыса Густава адзначыла, што выстава праводзіцца ў рамках X Міжнароднага фестывалю праваслаўных спеваў і прадстаўляе мастацтва праваслаўных беларусаў розных краін.

ГОД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

# Маладзечанскія даляглядзы

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Мой суразмоўца Юрый Вута, вядомы як "галоўны беларускі Дзед Мароз", як моцны акцёр тэатра і кіно ("у трыццаці фільмах зняўся і лічыць перастаў..."), аказаўся ў гэтым тэатры ў 1999 годзе спачатку ў якасці "проста рэжысёра-гастралёра". "Я іграў яшчэ тады ў спектаклях роднага мне мінскага Тэатра юнага гледача, быў у ім дырэктарам, займаўся рэжысурай, і вось калегі з Маладзечна запрасілі паставіць бенефісны спектакль да юбілею аднаго з акцёраў, — успамінае Юрый. — Мусіць, у нас ёсць з гэтым тэатрам нешта агульнае, бо мы палюбілі адзін аднаго, і з 2000 года я тут штогод стаўлю спектаклі".

Па сваім статусе драмтэатр у Маладзечне — беларускамоўны, цяпер ідуць тут спектаклі не толькі айчынных аўтараў. "У рэпертуары 24 пастаноўкі, — звяртаецца да афішаў мастацкі кіраўнік. — Ёсць такія вядомыя тэатралам аўтары, як Янка Купала, Аляксандр Астроўскі, Барыс Васільеў, Славамір Мрожак, Аляксей Дудараў... Што мне падабаецца найбольш? Спектакль-старажыл, візітная картка тэатра — "Камедыя" Уладзі-міра Рудава паводле твораў Каятана Марашэўскага і Францішка Аляховіча. Яго паставіў Андрэй Андросік, адыгралі ўжо 200 спектакляў, і глядач на яго ідзе... "Вечар" паводле Аляксея Дударава ў пастаноўцы Валерыя Мазынскага..."

Сам Юрый Вута паставіў на новай для яго сцэне больш дзесятка спектакляў. У прыватнасці, купалаўскія "Прымакі" ў яго сцэнічнай версіі маюць новыя нюансы, і спектакль ідзе пад назвай "На другі дзень Сёмухі". "Паводле Купалы дзеянне развіваецца як бы з аднаго боку, у адной хаце, і тэксту зусім няшмат – аўтар быццам спецыяльна падштурхоўвае нас да вясёлых імправізацый, — расказвае рэжысёр. — А што робіцца ў другой хаце? Мы паспрабавалі заглянуць і туды, зрабілі добрую "нацыянальную вясялуху", але з тонкім гумарам."




Сцэна з прэм'ернага спектакля "Каб вы жылі"

Цяпер у тэатры — новая прэм'ера, сцэнічны аповед пра жыццё-быццё трох пажылых жанчын "Каб вы жылі" па п'есе Міхаіла Каломенскага. Ролю Аляксандры, адну з галоўных, выконвае вядомая актрыса Галіна Кухальская. "Для мяне гэтыя бабулі вельмі блізкія, такая шчымлівая "постсавецкая натура" сёння ёсць — а заўтра яе ўжо не будзе, — разважае рэжысёр спектакля Юрый Вута. — Працуючы над спектаклем, я часта згадваў сваю маму, і ў вобразе Аляксандры, з яе неспакойным характарам, пазнаваў шмат знаёмых з дзяцінства рысаў".

"Інтэлігентная зала — вось што сярод іншага мяне ўразіла, калі знаёмілася з гэтым тэатрам, — прызналася актрыса Галіна Кухальская. — Тут ёсць і бабулі-тэатралкі, якія пільнуюць усе прэм'еры. Яны прыходзяць за кулісы, гавораць цёплыя словы. А ў зале, бачыла, яны не стрымліваюць слёз. А яшчэ, уявіце, на адным з нашых маладзёжных спектакляў "Не судзімы будзеце" па п"есе Я.Главацкага сядзіць цэлая зала падлеткаў – і яны ўсе вельмі ўважліва слухаюць, жыва рэагуюць на сцэнічнае дзеянне. Таму хочацца ўкладваць душу ў спектаклі. Сапраўды, шчасце, калі цябе разумеюць ..."

**Факт гісторыі:**

Маладзечанцы не прамінуць нагадаць гасцям, што праз іх тагачаснае мястэчка праходзілі напалеонаўскія войскі, адступаючы з Масквы на пачатку зімы 1812 года. Гісторыкі сцвярджаюць, што імператар Францыі спыніўся ў маладзечанскім замку ў Францішка Ксаверыя Агінскага, непадалёк размясціліся і рэшкі ягонай вялікай арміі. Кажуць, менавіта там, у замку, Напалеон І і задумаў свой апошні ў ходзе Усходняй кампаніі бюлетэнь, у якім склаў з сябе паўнамоцтвы галоўнакамандуючага і паспрабаваў вытлумачыць прычыны няўдачы французаў у Расіі.

# Галасы маладых

Сяргей Качаткоў

### Дзіцячы хор "Радуга" з Віцебскай вобласці прыняў удзел у міжнародным фестывалі ў Маскве

Маскоўскае музычнае свята было прысвечана творчасці вялікіх рускіх кампазітараў — М.Глінкі, М.Рымскага-Корсакава, М.Мусаргскага, М.Іпалітава-Іванова, А.Грэчанінава і Р.Гліэра. Акрамя твораў класікаў харавой музыкі, "Радуга" прадставіла на суд журы шырокую праграму з беларускіх народных песень і твораў на тэму Вялікай Айчыннай вайны. Увесь жа рэпертуар хору з Віцебскай вобласці складаецца з сачыненняў кампазітараў-класікаў, варыяцый і апрацовак народных песень, духоўнай музыкі і твораў, напісаных для дзяцей.

Выступленні харавых калектываў маскоўскага песеннага форума прайшлі на вядомых канцэртных пляцоўках — у канцэртных залах Расійскай акадэміі музыкі і Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Акрамя таго, беларускія выканаўцы выступілі на іншых маскоўскіх сцэнах з канцэртамі сяброўства.

# Стагоддзе — не ўзрост

Аксана Шыкуць

### Найстарэйшай жыхарцы Мінска — 114 гадоў

Як паведамілі ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама, найстарэйшай жыхаркай Мінска з'яўляецца 114-гадовая Клаўдзія Якімовіч, якая пражывае ў Маскоўскім раёне сталіцы.

Цяпер у горадзе пражываюць 74 доўгажыхары, якія пераcягнулі 100-гадовую мяжу. Характэрна, што да стагадовага юбілею дажылі 62 жанчыны і толькі 12 мужчын. А ў ганаровым узросце 110–114 гадоў знаходзяцца тры чалавекі.

Мінск — адзіны рэгіён краіны, дзе нараўне з дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогай з 2004 года падаецца сацыяльная дапамога асобным катэгорыям жыхароў горада. Такая праграма дзяржаўнай падтрымкі слаба абароненых катэгорый мінчан штогод пацвярджаецца на сесіі Мінгарсавета. Дапамога горада прадугледжана і для старэйшага пакалення. У ліку мер — выплата штомесячнай сацыяльнай дапамогі да пенсій доўгажыхароў.

КРЫЖАВАНКА

# "Вясна сорак пятага года..."

**По гарызанталі:**

1. "Каб унукам памяць перадаць,\ На ... вядуць дзяды ўнукаў." З песні "Ваенныя парады" (сл.А.Лягчылава, муз. У.Прохарава). 4. На флоце: неадлучнае дзяжурства. 11. "Над мінным полем цішыні набат,\ Ідзі,сынок! Прыйдзі жывым, ...!" З песні "Прыйдзі жывым, ..." (сл.Г.Дзмітрыева, муз.Э.Казачкова). 12. Добра ўзброены ваенны карабель. 13. Вераломны напад фашысцкай Германіі на СССР. 16. "...вайны". Верш паэта П. Панчанкі. 17. "Чырвоная ... — гэта скала". З верша Я.Коласа "Чырвоная...". 18. Герой Савецкага Саюза, адна з удзельніц замаху на Кубэ. 21. Мір будуе, а ... руйнуе. (прык). 22. Буйны шрыфт старажытных рукапісаў. 23. "Штык у гліну ўбіты,\ А пабліzу — ..." З верша паэта В.Віткі "Ружа і штык". 24. Акружэнне войскамі ўмацаванага пункта; аблога. 25. "... вам, салдаты!" Верш паэта А. Лойкі. 26. Горад, у якім знаходзіцца крэпасць-герой і якому сёлета 990 гадоў. 29. Усё водная покрыва Зямлі. 34. "Вернасць Харужай,\ Ярасць ...,\ Росы на ружах,\ Зоркі на стэлах". З песні "На варце Перамогі" (сл. С.Панізніка, муз. Г.Казловай). 36. Архітэктурны стыль XVIII стагоддзя. 37. Месца размяшчэння вышэйшага ваеначальніка ў час вайны. 38. "Майскі ..." Песня І. Лучанка на словы М. Ясеня. 39. Заслужаны архітэктар Беларусі, аўтар і сааўтар мемарыяльных комплексаў "Хатынь", "Прарыў" і інш.

**Па вертыкалі:**

2. Натоўп, банда, зграя. Фашысцкая ... (перан). 3. Той, хто піша кнігі, стварае музыку і інш. 5. Афіцыйнае інспектаванне войск камандаваннем на парадзе. 6. Паўзе чарапаха-стальная рубаха (заг). 7. Адзін з чатырох напрамкаў свету. 8. "...і дучэ". Сатырычны верш Я.Коласа. 9. Рыбалоўная прылада. 10. "Так скажу: нашто мне ...?\ Згодны я і на медаль." З паэмы А.Твардоўскага "Васілій Цёркін". 14. Участак баёў, перадавая пазіцыя. 15. "Кінуў кліч Куцепаў, ... палка". З песні " Камень на Буйніцкім полі" (сл. В.Лужкоўскага, муз.А.Чыркуна). 19. "Кароткі мелі мы ...\ — Стаяць, каб вораг не прайшоў!" З верша паэта Ул.Дубоўкі "Голас партызана". 20. Маршал Савецкага Саюза, які прымаў Парад Перамогі ў Маскве 24 чэрвеня 1945 года. 25. "У спрадвечным бары\ Мы сышліся, ..., партызаны\ Лясной вайны ветэраны." З песні "Партызанская памяць" (сл. А.Вольскага,муз. Р.Суруса). 27. Паэт-песеннік, аўтар вершаў, пакладзеных на музыку, "Лясная песня", "Бывайце здаровы" і інш. 28. Вертыкальна пастаўленая мемарыяльная пліта ў гонар герояў і інш. 30. Воінскае падраздзяленне, якое нясе вартаўнічую службу. 31. Стральба; каманда "страляць". 32. Збор дакументаў па справе, асобе і інш. 33. Хлеб, соль, ... — салдацкая яда (прык). 35. "Радзіма — ..." Назва самай высокай статуі ў свеце (вышыня 82,3м), устаноўленай на Мамаевым кургане паблізу г. Валгаграда.

Склаў Лявон Целеш
г.Дзяржынск

**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:**
1. Парад. 4. Вахта. 11. Салдат. 12. Лінкор. 13 Агрэсія. 16. Дзеці. 17. Армія. 18. Траян. 21. Вайна. 22. Устаў. 23. Каска. 24. Асада. 25. Слава. 26. Брэст. 29. Акіян. 34. Гастэла. 36. Ракако. 37. Стаўка. 38. Вальс. 39. Левін.

**Па вертыкалі:**
2. Арда. 3. Аўтар. 5. Агляд. 6. Танк. 7. Усход. 8. Фюрэр. 9. Восці. 10. Ордэн. 14. Перадавая. 15. Камандзір. 19. Загад. 20. Жукаў. 25. Сябры. 27. Русак. 28. Стэла. 30. Нарад. 31. Агонь. 32. Дасье. 33. Вада. 35. Маці.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар: Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E—mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 538